РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух «За Свабоду» Выпуск №2 люты 2016 году

Кантрактны ціск – стар.2

У прадчуванні «гібрыднай вайны» – стар. 6-7

«Дылетанцкая» цэнзура – стар.8

# Змены пад выбары




**Рух «За Свабоду» застаецца актыўным удзельнікам кампаніі назірання «Права выбару-2016», якая днямі чарговы раз заклікала ўлады змяніць выбарчае заканадаўства.**

**Заклік кампаніі стаў вынікам прыняцця 12 лютага Цэнтрвыбаркамам пастановы аб стварэнні міжведамственнай экспертнай групы па вывучэнні рэкамендацый АБСЕ і выпрацоўцы прапановаў па іх прымяненні.**

На думку прадстаўнікоў кампаніі «Права выбару-2016», для спрыяння дэмакратызацыі выбараў і адкрытасці падліку галасоў удасканальваць варта і правапрымяняльную практыку, і заканадаўчую базу.

Кампанія назірання за выбарамі «Права выбару-2016» выразіла гатоўнасць прыняць удзел у працы створанай міжведамственнай экспертнай групы.

Прапановы ж па змяненнях у выбарчае заканадаўства грунтуюцца на высновах і рэкамендацыях, якія былі зроблены ў межах нацыянальных кампаній назірання за падрыхтоўкай прэзідэнцкіх выбараў 2010 і 2015 гг, выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў 27 склікання 2014 году і дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў 2012 году.

У законапраекце ўлічаны рэкамендацыі міжнародных місій АБСЕ, а таксама перадавая практыка выбарчага заканадаўства ў Еўропе.

Раней гэтыя прапановы ўжо агучваліся ў красавіку 2015 году, аднак ніякага эфекту ні на дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, ні на членаў Савета Рэспублікі, ні на супрацоўнікаў Цэнтрвыбаркаму яны не мелі.

У прыватнасці, у законапраекце прапануецца ўзвышэнне рэпрэзентацыйнасці тэрытарыяльных і ўчастковых выбарчых камісій, пашырэнне магчымасці палітычных партый да ўдзелу ў правядзенні выбараў шляхам накіравання сваіх прадстаўнікоў у склад выбарчых камісій, прадугледжваецца ўвядзенне інстытута сябраў Цэнтрвыбаркама з правам дарадчага голаса на выбарах дэпутатаў парламента і мясцовых Саветаў дэпутатаў.

Мэта распрацаванага законапраекта – дэмакратызацыя выбарчага заканадаўства. У ім выкладзеныя канкрэтныя прапановы па




працяг на стар. 2

# Змены пад выбары

## (працяг ад стар. 1)

прадухіленні фальсіфікацый у часе датэрміновага галасавання, павелічэння паўнамоцтваў назіральнікаў і палітычных партый у якасці удзельнікаў выбарчага працэса, прадухіленне выкарыстання адміністрацыйнага рэсурса. Рэальна павялічыць празрыстаць і дэмакратычнасць выбарчага працэсу падчас парламенцкіх выбараў 2016 году магчыма, але для гэтага патрэбна палітычная воля кіраўніцтва краіны.




# Кантрактны ціск

**Рух «За Свабоду» разам з іншымі праваабарончымі арганізацыяім запатрабаваў ад беларускіх уладаў адмовіцца ад дыскрымінацыйнай кантрактнай сістэмы.**

Праваабаронцы патрабуюць

1. адмяніць Дэкрэт №29
2. адмяніць дыскрымінацыйную кантрактную сістэму найму,
3. рэгуляваць прыём і звальненне з працы Працоўным кодэксам,
4. праверыць канстытуцыйнасць Дэкрэта №29.




Зварот у дзяржаўныя органы быў ініцыяваны Камітэтам «Салідарнасць». Праваабаронцы патрабуюць адмяніць Дэкрэт № 29 ад 26 ліпеня 1999 г. «Аб дадатковых мерах па ўдасканаленні працоўных адносін, умацаванні працоўнай і выканальніцкай дысцыпліны», адмовіцца ад дыскрымінацыйнай кантрактнай сістэмы найму і надалей рэгуляваць прыём і звальненне з працы нормамі Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Праваабаронцы таксама выступілі за разгляд у Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь прапановы аб праверцы канстытуцыйнасці названага нарматыўнага прававога акту.

Даследаванні праваабаронцаў паказалі, што Дэкрэт № 29 паставіў рабочых і служачых у становішча крайняй залежнасці ад працадаўцы, істотна пагаршае іх прававое становішча ў параўнанні з Працоўным Кодэксам.

«Кантрактная сістэма пры такім шырокім яе прымяненні стварае поле для дыскрымінацыі. Рашэнне аб падаўжэнні кантракту залежыць ад суб'ектыўных адносінаў наймальніка да работніка, прадыктаваных меркаваннямі узаемных сімпатый-антыпатый, лаяльнасці-нелаяльнасці і т.п. Існы стан спраў дае шырокія магчымасці для злоўжыванняў службовым асобам прадпрыемстваў і арганізацый, якія атрымалі ў сваё распараджэнне нічым не абмежаваны механізм для адвольнага звальнення непажаданых работнікаў», - адзначаюць ініцыятары звароту.

Ключавая высновa, якая вынікае з аналізу практыкі звальненняў, дадалі яны, "заключаецца ў тым, што асноўным рэпрэсіўным механізмам, карыстаным уладамі для ціску на іншадумцаў, выкладчыкаў устаноў адукацыі, членаў незалежных прафсаюзаў, актывістаў палітычных партый і грамадскіх арганізацый, проста рабочых і служачых, з'яўляецца існуючая кантрактная сістэма".

# Парадак дня без санкцый

**15 лютага Еўразвяз скасаваў санкцыі са 170 фізічных і трох юрыдычных асоб Беларусі. Як гэта адаб'ецца на стасунках з Захадам? Ці прывядзе пацяпленне адносінаў да нейкіх канкрэтных пераменаў?**



Заўважым адразу, што ЕЗ пакідае ў сіле эмбарга на пастаўкі Беларуссю ўзбраенняў, а таксама санкцыі ў дачыненні да чатырох высокапастаўленых (у свой час) сілавікоў, якіх Захад лічыць датычнымі да знікненняў у 1999-2000 гадах палітычных апанентаў Лукашэнкі.

Еўразвяз увёў санкцыі ў дачыненні да Беларусі за парушэнні правоў чалавека і дэмакратычных працэдур у 1998 годзе. У 2006 годзе санкцыі ў дачыненні да Беларусі ўвялі ЗША.

«Сітуацыя ў Беларусі не памянялася, але яна радыкальна не пагоршылася, і таму Еўрапейскі звяз пакінуў так як ёсць. Ён замацаваў сваё ранейшае рашэнне пра адмену большасці абмежаванняў», - адзначыў палітолаг, намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Алесь Лагвінец.

Ён прагназуе, што афіцыйны Мінск будзе спрабаваць самаўстрымліваўца.

## Хто быў у спісе?

Візавыя абмежаванні і блакаванне магчымых рахункаў у замежных банках тычыліся кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі і двух ягоных старэйшых сыноў; кіраўніка Цэнтрвыбаркаму Лідзіі Ярмошынай, кіраўніка КДБ і цэлага шэрагу міністраў, чыноўнікаў, суддзяў.

У спісе прадпрыемстваў і арганізацыяў, якія трапілі пад санкцыі, былі, да прыкладу, «Белтэхэкспарт», заняты экспартам узбраенняў і прадукцыі падвойнага прызначэння; піваварная кампанія «Ракаўскі бровар»; футбольны клуб «Дынама» ды іншыя.

«Некаторыя чальцы ЕЗ лічаць, што найлепшы спосаб палепшыць сітуацыю — зняць санкцыі, а некаторыя краіны мяркуюць, што ўсё ж лепей пакінуць шэраг санкцыяў», — паведаміла агенцтву «France Presse» крыніца ў Радзе ЕЗ.

Іншая крыніца ў Брусэлі сказала агенцтву, што ў ЕЗ хацелі адзначыць ролю Менску ў наладжванні дыялогу паміж Масквой і Кіевам ва ўрэгуляванні сітуацыі на Данбасе.

У лютым 2015 года ў Мінску адбылася сустрэча «нармандскай чацвёркі» па Украіне. Тады Лукашэнка заявіў аб імкненні наладзіць адносіны з ЕЗ і папрасіў Маскву «не напружвацца» з-за рашэння Менску нармалізаваць адносіны з Захадам.

У кастрычніку мінулага года Рада ЕЗ пастанавіла прыпыніць на чатыры месяцы санкцыі ў дачыненні да беларускіх чыноўнікаў і прадпрыемстваў.

Санкцыі часова былі знятыя з кампаніяў «Белтэхэкспарт», «Белтэххолдынг», «Спецпрыборсэрвіс» ды іншых.

Як патлумачылі тады ў Брусэлі, пастанова была прынятая ў адказ на вызваленне ўсіх беларускіх палітвязняў 22 жніўня і ў кантэксце паляпшэння адносін паміж ЕЗ і Беларуссю.

Пры гэтым у ЕЗ адзначалі, што «санкцыі могуць быць зноў уведзеныя ў любы момант, калі гэта будзе апраўдана».

ЕЗ ужо аднойчы адмяняў санкцыі ў дачыненні да кіраўніцтва Беларусі ў 2008 годзе, аднак у 2011 годзе санкцыі былі зноў уведзеныя Еўрапейскім Звязам — пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года і арыштаў удзельнікаў Плошчы-2010.

Улады Беларусі неаднаразова выказваліся за адмену санкцый. Афіцыйны Мінск сёння заяўляе аб намерах актыўна развіваць адносіны з Еўропай і ЗША.

працяг на стар. 4-5

# Парадак дня без санкцый

## (працяг ад стар. 3)

**Мінск стаў “рукапаціскальным”?**

«У пэўным сэнсе, так. З Мінскам спрабуюць размаўляць. Да Мінска спрабуюць падыйсці стратэгічна. Менску спрабуюць паказаць, што еўрапейская альтэрнатыва існуе для Беларусі , што адносіны з Еўрапейскім звязам – гэта выгадна для Беларусі. І дзеля гэтага Еўрапейскі звяз прыняў стратэгічнае рашэнне ўцягваць Беларусь у больш шчыльнае супрацоўніцтва», - адзначыў у інтэрв’ю радыё «Рацыя» намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Алесь Лагвінец.



**Ці Мінск за грошы гатовы на нейкія рэальныя саступкі?**

«Афіцыйны Мінск сёння спрабуе паказаць, што ён дамовадздольны. Ён спрабуе гуляць у гульню, каб атрымаць большую колькасць грошай ад Еўразвязу. І зразумела, што нейкія зрухі ў гэтым кірунку магчымыя. Магчыма якаясьці падтрымка прадпрымальнікам, альбо прадпрыемствам, альбо на рэструктурызацыю беларускай эканомікі з Еўрапейскага звязу можа быць.

Мы ведаем, што гістарычна Еўразвяз моцна паўплываў і паспрыяў рэструктурызацыі эканомік краін Цэнтральнай Еўропы. І тут мы бачым, што мадэль адносінаў тая ж самая, Еўразвяз іншай і не ведае. Ён спрабуе дамаўляцца з дзяржаўнымі інстытуцыямі адносна наступных крокаў на шляху рэфармавання. Гэта такі спратэгічны падыход.



Зразумела, што такі падыход не заўсёды ўлічвае асаблівасці ўлады, з якой ён размаўляе, і таксама жаданне гэтай улады. І ў той жа час мы бачым, што ўлада ў Беларусі напужаная. Магчыма расейскай інкарпарацыяй, або расейскай пагрозай. Спрабуе пагуляць з Захадам. Паабяцаць пэўныя крокі насустрач», - кажа Лагвінец.

Напрыклад:

«Мы бачым, што беларускія ўлады, у пэўным сэнсе, самаўстрымліваюцца, не прымяняюць больш рэпрэсіяў, хаця яны гэта могуць зрабіць супраць пратэстоўцаў. Альбо ўлады спрабуючы таксама завязаць нейкую грамадскую дыскусію ўнутры краіны. Абяцаючы таксама нібыта змены і ў выбарчым заканадаўстве, прынамсі на ўзроўні правапрыменяльнай практыкі.

Мы ведаем, што яны хутчэй за ўсё гэта не будуць рабіць. Але тут Еўразвяз спрабуе гуляць з чыстага аркуша, імкнучыся паказаць, што ёсць пэўны еўрапейскі шлях, пэўная еўрапейская мадэль узаемаадносінаў».

Мы ведаем, што гэтыя ўлады наўрад ці здольныя да канца “разгуляць” еўрапейскую карту, адзначае адзін з кіраўнікоў Руху:

«Але, зноў такі, нам павінна хапіць стратыгічнага мыслення, і мусім разумець, што калі мы сёння не дадзім магчымасці нашай краіне скарыстацца з гэтага шанцу большага адкрыцця на Еўрапейскі звяз, то магчыма пазней будзе ўжо і позна, бо стратэгічнае мысленне – гэта азначае: бачыць, хто ёсць хаўруснікам у нашай справе.

Сёння Беларусь можа замацаваць сваю незалежнасць і зрабіць яе незва-






ротнай, дзякуючы больш шчыльнаму ўзаемадзеянню з Еўразвязам. Каб нашыя людзі не толькі ідэйна падзялялі еўрапейскія каштоўнасці, але і пачалі звязваць свой дабрабыць з больш шчыльнымі адносінамі з аб'яднанай Еўропай. І гэта даволі доўгі працэс.

Ён займае час, і тут мне падаецца, што некаторыя беларускія дысідэнты грашаць тым, што яны спрабуюць секчы сук, на якім сядзяць, альбо спрабуюць даваць урокі маральнасці Еўразвязу. І спрабуюць нават у нечым дыскваліфікаваць таго адзінага саюзніка, якога мы патэнцыйна можам мець дзеля ўмацавання нашай незалежнасці і развіцця дэмакратычных інстытутаў Беларусі. Бо незалежнасць і дэмакратыя можа быць пабудаваныя ў Беларусі толькі самімі беларусамі. Еўразвяз можа толькі спрыяць гэтаму.

Еўрапейскі звяз, як любая дэмакратычная структура, і асабліва краіны Еўразвязу, якія маюць дэмакратычны лад кіравання, яны разнастайныя. Ёсць адны, у якіх больш акрэсленыя бізнес інтарэсы, ёсць іншыя, якія кіруюцца геапалітычнымі падыходамі, ёсць яшчэ адны, якія кіруюцца каштоўнаснымі рэчамі. І тут варта сапраўды мабілізаваць падтрымку, а не проста дыскрэдытаваць, крытыкаваць, навешваць якіясьці ярлыкі. Трэба цвёрда казаць пра сваю пазіцыю, але заўсёды памятаць, што гэта размова не дзеля таго, каб дыскрэдытаваць, альбо адмовіць у якімсьці дзеянні, а гэта размова дзеля таго, каб уплываць і дасягнуць канкрэтнага выніку».

## Што далей?

Якія крокі Беларусь будзе прасіць далей ў Еўрапейскага звязу, калі санкцыі знятыя?

Алесь Лагвінец перакананы, што ў еўрапейскіх краінаў ёсць свой парадак дня. Гэта парадак дня можа быць з аднаго боку з уладамі, з іншага боку з дэмакратычным грамадствам:

«Я не думаю, што Еўразвяз пойдзе на тое, каб цалкам скарачаць праграмы падтрымкі незалежных медыяў. Незалежныя медыі – гэта адна з базавых каштоўнасцяў Еўразвязу, палітычнай сістэмы краінаў Еўразвязу, і гэта вельмі мала верагодна.

Я думаю, што ўлады больш чакаюць грошай і крэдытаў, падтрымкі прадпрыемстваў, можа інвестыцыяў. Яны, канешне, хочуць захаваць нязменную палітычную сістэму панавання Лукашэнкі. Але, я думаю, што пэўныя крокі яны будуць чакаць менавіта ў эканамічнай галіне.

Што тычыцца адносінаў з незалежным грамадствам, магчыма ўлады паспрабуюць неяк пераарыентаваць на сябе падтрымку, якая ідзе ад Еўразвязу, магчыма Езразвяз будзе паказваць якуюсьць зацікаўленасць, але я не думаю, каб цалкам Еўрапейскі звяз адвярнуўся ад беларускіх дэмакратычных праеўрапейскіх сілаў. Зноў жа, Еўрапейскі звяз неаднародны, ёсць уплывовыя гульцы ў Еўразвязе, якія жадаюць бачыць Беларусь еўрапейскай, незалежнай, дэмакратычнай. А без незалежнай прэсы, без развіцця грамадзянскай супольнасці і няўрадавых арганізацый, якія непадкантрольныя дзяржаве, гэта немагчыма зрабіць. Гэта трэба вельмі добра памятаць.

Трэба проста больш мэтанакіравана працаваць з нашымі партнёрамі. Трэба таксама шукаць унутраныя рэсурсы. Яны ёсць. Тут, як кажуць, кропля камень точыць. Не ўсё так кепска ў Беларусі».

Лагвінец зяртае ўвагу на тое, што мы маем досвед 20-гадовай незалежнасці, аўтарытарнай, недэмакратычнай, антыгуманнай, але незалежнасці. «Усё ж такі гэта рэч, з якой звыклася бальшыня беларусаў. Ёсць новае пакаленне беларусаў, якія гатовыя гэтую незалежнасць адстойваць і далей развіваць нацыянальную саматоеснасць. "І менавіта на гэтым падмурку ў нас ёсць шанец пабудаваць лепшую Беларусь», - перакананы намеснік старшыні Руху.



# У прадчуванні “гібрыднай вайны”

**Ваенная дактрына Беларусі ў новай рэдакцыі зрушыць акцэнты ад знешніх пагроз да ўнутраных. На думку экспертаў, улады асцерагаюцца не прамога ўварвання, а «каляровых рэвалюцый» і гібрыдных войнаў.**

Новая рэдакцыя ваеннай дактрыны Беларусі паступіла на абмеркаванне ў парламент краіны. Раней яе ўхваліў і зацвердзіў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Паводле звестак дзяржаўнага інфармагенцтва БЕЛТА, якое цытуе беларускі Савет бяспекі, змяненне палітыкі ў сферы ваеннай бяспекі звязана са зменамі ваенна-палітычнага становішча ў краіне і свеце.

«Пры фармаванні пераліку ваенных небяспекаў улічвалася зрушванне акцэнтаў ад знешніх пагроз да унутраных», – гаворыцца ў тлумачэнні Савета бяспекі «Чым адрозніваецца новая ваенная дактрына Беларусі». Да пагрозаў сярод іншых цяпер будуць адносіцца «каляровыя рэвалюцыі» і механізмы сілавога звяржэння непажаданых палітычных рэжымаў з дапамогай правакавання ўнутраных узброеных канфліктаў».

Эксперты назвалі планаваныя змены ў беларускай ваеннай дактрыне адлюстраваннем страхаў кіраўніцтва, нагодай для якіх стаў Майдан і канфлікт на ўсходзе Украіны пры ўдзеле Расіі. На думку назіральнікаў, улады ў Мінску баяцца, што на фоне сур’ёзных эканамічных праблемаў Беларусі інфармацыйна-прапагандысцкі ўдар з боку іншай дзяржавы можа стаць перадумовай для ўзнікнення «каляровай рэвалюцыі» і наступнай гібрыднай вайны з фінансавай і ваеннай падтрымкай звонку.



## На вопыце Украіны

У новай рэдакцыі вайсковай дактрыны Беларусі сярод іншых з’явіліся такія тэрміны, як “гібрыдная вайна”, «незаконнае ўзброенае фармаванне» і «унутраны ўзброены канфлікт”, а таксама замацоўваецца магчымасць выкарыстання ваеннай сілы не толькі ў знешніх, але і ва ўнутраных канфліктах. «Гэты дакумент ўлічвае экспарт “каляровых рэвалюцый», – паведаміў карэспандэнту БЕЛТА член пастаяннай камісіі па нацыянальнай бяспецы парламента Беларусі Аляксандр Мяжуеў.

Беларускае кіраўніцтва баіцца паўтарэння ўкраінскіх падзей апошніх двух гадоў, падкрэсліў у гутарцы з DW ваенны аглядальнік інтэрнэт-рэсурсу belrynok.by Аляксандр Алесін. Паводле спадара Алесіна, ранейшая рэдакцыя дактрыны, якая дзейнічае 14 гадоў, цалкам задавальняла афіцыйны Мінск, нават нягледзячы на абвастрэнне адносін па лініі НАТО-АДКБ і ЗША-Расія. Прамое ваеннае ўварванне на тэрыторыю краіны ўлады і цяпер не разглядаюць як патэнцыйную пагрозу. Міністр абароны Андрэй Раўкоў у інтэрв’ю тэлеканалу «Беларусь-1» у лістападзе заявіў, што размяшчэнне ў дзяржавах НАТО «непадалёк ад беларускай мяжы баз і складоў для забеспячэння дзеянняў груповак войскаў з’яўляецца пэўнай небяспекай, але ваеннай пагрозы няма».

«Больш сур’ёзнай пагрозай для Беларусі можа стаць гібрыдная вайна – чужымі рукамі, падобная да вірусу, якая пачынаецца з інфармацыйнага ўдару і інфікуе спачатку невялікую частку насельніцтва, а затым разрастаецца і падсілкоўваецца фінансамі, зброяй і пасылкай інструктараў, як гэта было на ўсходзе Украіны», – лічыць Аляксандр Алесін.

З тым, што Беларусь павін-




на ўлічваць тое, што змянілася знешнепалітычная сітуацыя, згодны і кіраўнік мінскага аналітычнага цэнтра Belarus Security Blog Андрэй Паратнікаў.

Па-першае, таму што пасля анэксіі Крыму Расіяй апынулася разбуранай рэгіянальная сістэма бяспекі і тая дамоўная база, якая дзейнічала раней. Па-другое, падкрэсліў Паратнікаў, далейшыя паводзіны Расіі паказалі, што ў 2014 годзе разбурыўся базавы тэзіс расійскай вонкавай палітыкі аб нязменнасці межаў Еўропы пасля распаду СССР. «Сілу права замяніла права моцнага», – указаў аналітык.

Так што, на яго думку, калі новая дактрына разглядае ўнутраную дэстабілізацыю як ваенную небяспеку, заканамерна, што ў дакуменце прапішуць функцыі ваенізаваных структур і спецслужбаў для процідзеяння раскручванню міжнацыянальнай, рэлігійнай і ідэалагічнай варожасці. А таксама спробам гвалтоўнай змены канстытуцыйнага ладу, у тым ліку і з дапамогай далучэння тэрыторыі або часткі тэрыторыі Беларусі да суседняй дзяржавы.

У той самы час Паратнікаў мяркуе, што, акрамя знешніх фактараў, існуе рэальная пагроза нацыянальнай бяспекі ўнутры самой Беларусі. «Яна звязаная з дэградацыяй дзяржавы, у якой адсутнічае моцны ідэйны стрыжань і якая не здольнаея пераадолець працяглы крызіс у эканоміцы», – адзначыў аналітык. І дадаў: «На моцных не нападаюць, нападаюць толькі на слабых».

## Пагроза ўнутры Беларусі

Пагаршэнне эканамічнай сітуацыі – гэта другая прычына, па якой, на думку Аляксандра Алесіна, была створана новая версія ваеннай дактрыны. Дакумент павінен заканадаўча замацаваць прадухіленне масавых пратэстных акцый яшчэ на стадыі зараджэння, хоць, упэўнены Алесін, «само па сабе рэзкае падзенне даходаў насельніцтва наўрад ці прывядзе да шырокіх сацыяльных хваляванняў».

Аднак апатыя і пасіўнасць і насамрэч амай справе можа стаць прычынай нежадання падтрымліваць улады. Тады, працягвае Алесін, будзе дастаткова нават невялікіх сіл пратэстуючых, каб змяніць становішча ў краіне. Эксперт прывёў у прыклад распад СССР. Прыхільнікаў перабудовы ў краіне было няшмат, але грамадства, пагружанае ў апатыю з-за эканамічнага разгрому, не пажадала абараняць Савецкі Саюз.

У сваю чаргу намеснік старшыні Руху «За Свабоду», палітолаг Алесь Лагвінец назваў страхі ўладаў перад «каляровымі рэвалюцыямі» і гатоўнасць душыць мірныя пратэсты сіламі ваенных пагрозай нацыянальнай бяспекі, высмактанымі з пальца. «У народа адабралі права вольных выбараў, а цяпер адбяруць яшчэ і права пратэставаць і патрабаваць перамен», – лічыць палітолаг.

Паводле яго слоў, Беларусь, несумненна, павінна адаптаваць сваю ваенную дактрыну «адносна недружалюбных дзеянняў суседняй краіны, якая можа не аб'яўляць вайну, але фактычна весці яе». У той жа час Лагвінец звярнуў увагу на сур'ёзную, на яго погляд, пагрозу неваеннага характару, пра якую ўлады лічаць за лепшае не згадваць, ссоўваючы акцэнты выключна на ваенныя аспекты праблемы.

У краіне няма нацыянальнага адзінства, беларускае грамадства па розных прычынах штучна падзелена, указвае палітолаг. «І ніякая новая ваенная дактрына, якая, паводле задумы афіцыйнага Мінска, павінна мабілізаваць народ на адпор ворагу, не паменшыць актуальнасці пытання: чаму беларусы, пазбаўленыя сваіх грамадзянскіх правоў, павінны абараняць дзяржаву, якая не абараняе іх правы і інтарэсы?», – рэзюмаваў Алесь Лагвінец.



# «Дылетанцкая» цэнзура

**Вядомы тэлевядучы Юры Жыгамонт прыйшоў на сустрэчу з мінскім актывам Руху «За Свабоду».**




«Мы вялікія людзі, у нас вялікая краіна. У нас вельмі багатая гісторыя, вельмі файная, вялікая. А нашая вялікасць ёсць была і будзе. І я вельмі выдатна гэта ведаю», — сказаў Жыгамонт.

На сустрэчы прысутнічалі каля 30 актывістаў Руху. Жыгамонт распавёў пра сваю працу над “Падарожжамі дылетанта” і цікавыя гісторыі з жыцця, адказаў на пытанні.

Напрыклад, удзельнікаў цікавіла ці была пад час працы на БТ цэнзура. «УПА (Украінская паўстанцкая партыя) «нарадзілася» ля Дзівіна. што ў Кобрынскім раёне. Мяне дастала ўсё, і я выдаў гэта на перадачы. Думаў: «Зачыняйце!» А яна не зачынілася«, — расказаў вядучы.

Ён дадаў, што «цэнзура бывала». «Я адчуваў, што магу праз гэтую праграму распавесці пра сваю Бацькаўшчыну, таму ішоў на кампрамісы», — патлумачыў Жыгамонт.

«Калі ты ідзеш і кожны дзень з табой здароўкаюцца на вуліцы, ты адчуваеш, што ты нешта такое значнае зрабіў», — дадаў ён.

# Студэнт наноў

**Адлічанага пасьля Дня волі ў 2015 годзе сябра Руху «За Свабоду» Пятра Маркелава, аднавілі на платнае навучаньне ў БДУ.**



«Я толькі сёньня дамову падпісаў на платнае навучаньне, а таксама накіраваў ліст рэктару з просьбай усё ж такі на трэці курс аднавіць», — расказвае Пётар Маркелаў.

Пры аднаўленьні на фізычны факультэт БДУ ён страціў два сэмэстры навучаньня. Да адлічэньня хлопец вучыўся на 6-м сэмэстры, а цяпер навучаньне можа працягнуць толькі з 4-га.

Пакуль Пётар не пабачыў на ўласныя вочы загад на залічэньне, ён не да канца верыць у тое, што сытуацыя вырашылася. І перажывае, ці знойдуцца грошы на навучаньне.

«Я хачу вучыцца і жыць у Беларусі, бо мне тут камфортней за ўсё. Бо гэта мая краіна, менавіта тут я павінен мець больш за ўсё правоў і магчымасьцяў. БДУ — найлепшы ўнівэрсытэт у краіне, я хачу вучыцца тут і рабіць яго лепей. Я хачу жыць у Беларусі і рабіць яе лепей».

Афіцыйна Маркелаў быў выключаны за пропускі заняткаў пры сярэднім бале 8,6. Да адлічэньня ён балятаваўся ў дэпутаты Менскага гарадзкога савету ў 2014 годзе, падчас прэзыдэнцкіх выбараў 2015-га быў актыўным назіральнікам і ладзіў відэатрансьляцыю з выбарчага ўчастку, спрабаваў зарэгістраваць студэнцкае аб’яднаньне «Інтэрмарыюм», якое спрыяе аднаўленьню культурных і сацыяльных сувязяў паміж краінамі Міжмор’я, а таксама палітычнай і эканамічнай інтэграцыі рэгіёну.

Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 03.03.2016 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@pyx.by